# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№ 34 (48) | 29 кастрычніка — 4 лістапада 1993 г. | Кошт 25 рублёў





## Абраны новы ваявода




21 кастрычніка на пазачарговай сэсіі Вабласнога Савету народных дэпутатаў абраны новы старшыня Савету. Ім стаў С. Домаш, які працаваў дагэтуль старшынёй Гарадзенскага гарвыканкаму.

Дэпутаты ўшанавалі хвілінай маўчаньня памяць аб былым [illegible]аршыні вабласнога Савету Д. Арцым[illegible] жорстка забітым 20 верасьня.

У сэсіі ўзяў удзел старшыня Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Ст. Шушкевіч. Як лічаць, толькі дзякуючы ягонай прысутнасьці перамаглі прыхіль[illegible]С. Домаша. Інакш вынікі выбараў м[illegible]і б быць зусім іншыя. Аб гэтай крыху дэтэктыўнай гісторыі чытайце ў наступным нумары газэты «СВАБОДА».

**С. РУЦКАЯ.**

## Шыльда С. Рак-Міхайлоўскаму ў Ашмянах

**Навукова-практычная канфэрэнцыя, прысьвечаная знакамітым людзям, гісторыка-архітэктурным помнікам, гістарычным падзеям і мясьцінам Ашмяншчыны XVII — XX ст., адбылася 15 кастрычніка. Яе ладзілі выканкам Ашмянскага раённага Савета народных дэпутатаў, Інстытут гісторыі АН Беларусі, вабласны і Ашмянскі раённы Саветы, Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, вабласное аддзяленьне Фонда культуры і Краязнаўчая асацыяцыя, а таксама кафэдра гісторыі Беларусі Гарадзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы**

Канфэрэнцыя праводзілася ў актавай зале Ашмянскага райсавета, а таксама на прадпрыемствах і ўстановах раённага цэнтра. Адбылася цікавая экскурсія па знакамітых мясьцінах Ашмяншчыны.

Урачыстым было адкрыцьцё мэмарыяльнай дошкі выдатнаму сыну беларускага народа Сымону Рак-Міхайлоўскаму на будынку колішняй настаўніцкай сэмінарыі, дарэчы, яе заснавальніку і кіраўніку. Асьвяціў дошку ксёндз Барунскага парафіяльнага касьцёла.

**Алесь БАШКО.**

## КП «Абухава» не працуе

Адсутнасьць паліва прымусіла кіраўніцтва аэрапорту «Абухава» спыніць прыём міжнародных авіялайнераў, якія выконвалі палёты з Нямеччыны ў Расею й Казахстан, і карысталіся Гарадзенскім аэрапортам як базай дазапраўкі. Спыненьне палётаў адмоўна адбілася на становішчы мытнай службы, якая засталася пакуль без працы.

**Г. У.**

## Мытня мясцовага прызначэньня

Днямі на мытным пункце «Сапоцкін» кантралёраў-міліцыянтаў зьмянілі прафэсіяналы памежнікі. Мытны кантроль тут вядзецца кругласутачна і ў дзьве зьмены. КП «Сапоцкін» будзе дзейнічаць толькі як пункт мясцовага прызначэньня.

**Г. У.**

## Даляр даражэе

На мінулым тыдні зноў адбылося падзеньне курсу разьліковых білетаў Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь у адносінах да некаторых замежных валют. Так, калі ў абменных пунктах РБК «Комплекс» у мінулы панядзелак даляр ЗША куплялі за 3.007 і нямецкую марку — за 1843, а прадавалі за 3.333 і 2.121 беларускі рубель адпаведна, дык ў гэты панядзелак набывалі адзін «зялёны» за 3.395 і прадавалі за 3.636, а дойчмарку — за 2.037 і 2222 рублі.

Узрасла таксама пакупная цана на расейскія рублі: з 1.800 да 2.400 беларускіх за тысячу. Не зьмяніўся пакуль курс ангельскага фунта і летувіскага літа з-за нізкага попыту на іх: пакупка — 4.559 і 600 адпаведна, продаж — 4.949 і 700.

Калі й надалей будзе працягвацца дэвальвацыя нашых грошай, дык спраўдзяцца прагнозы эканамістаў, якія яшчэ напачатку лета казалі, што напярэдадні новага года амэрыканскі даляр будзе каштаваць 5.000 беларускіх рублёў.

**А. Д.**

## У фірмовай краме — трохі таньней

Гарадзенская тытунёвая фабрыка «Нёман» зноў мае фірмовую краму. З панядзелка яна адчынілася ў адміністрацыйным будынку прадпрыемства. Набыць тут можна тытунёвыя вырабы ўсіх відаў, якія выпускае фабрыка. Цэны ніжэйшыя, чым у дзяржаўных крамах. Напрыклад, пачак «Астры» каштуе 185 рублёў, «Космасу» — 250, «Арбіты» — 210, «Беламорканалу» — 145.

У хуткім часе тут можна будзе набыць таксама і іншыя тавары, якія фабрыка атрымае па бартэру ўзамен за цыгарэты ад іншых прадпрыемстваў, напрыклад — мэблю.

**А. Д.**

## На заробкі да Эстоніі

С. Лаўкевіч з Горадні ўжо некалькі месяцаў працуе ў доках талінскага порту. Сваёй працай і заробкам Сяржук пакуль што задаволены. Ёсьць толькі адна непрыемнасьць: згодна існуючаму заканадаўству эстонскай дзяржавы працоўная віза выдаецца эмігранту толькі на 30 сутак. Каб здабыць новую візу, жадаючаму неабходна больш за два тыдні чакаць у прыёмнай эстонскага пасольства ў Маскве.

**Г. У.**

# Віленскія паведамленьні

### Жахі

Ва унівэрсітэцкім псыхіятрычным шпіталі ў Новай Вілейцы створаны навуковы аддзел, які мае заняцца вывучэньнем праблемаў самагубства. Супрацоўнік гэтага аддзелу прафэсар А. Дзямбінская сьведчыць, што Летува стаіць на другім месцы ў сьвеце пасьля Вугоршчыны па ліку самазабойстваў. Колькі гадоў таму, на хвалі адраджэньня, лік самагубстваў зьменшыўся, а цяпер зноў вырас. Тры самазабойствы за дзень сёньня ўжо звыклая зьява для краіны.

### Гэапалітыка

Як толькі былі выведзеныя расейскія войскі з тэрыторыі Летувы, адразу на поўны голас загучалі заклікі пра ўступленьне ў НАТА. 10 кастрычніка прэзыдэнт рэспублікі А. Бразаўскас вярнуўся з Вены, з сустрэчы кіраўнікоў дзяржаваў Рады Эўропы і заявіў, што на гэтую задуму на Захадзе паглядаюць даволі скэптычна. Тамака імкнуцца не правакаваць Расею, асабліва іхніх вайскоўцаў, якія незадаволеныя імкненьнем дзяржаваў Усходняй і Цэнтральнай Эўропы ўступіць у былы варожы ваенна-палітычны блёк. Апошнія падзеі ў Маскве яшчэ больш зьменшылі шанц гэтых краінаў на далучэньне да НАТА.

### Суд гісторыі

Гэтую імпрэзу ў Летуве ацанілі па-рознаму. Адныя абазвалі зборняй крыкуноў, другія — законным правам летувіскай нацыі. У Вільні шэраг грамадзкіх арганізацый правялі суд над Арміяй Краёвай. Польскіх партызанаў часоў II-ой сусьветнай вайны абвінавачвалі ня толькі ў забойстве 158 асобаў, а наогул у генацыдзе. Грамадзкая камісія, выслухаўшы гістарычную даведку, паказаньні навочных сьведкаў, вынесла свой вырак і зьвярнулася да Сойма рэспублікі з патрабаваньнем забараніць прапаганду дзейнасьці АК, а таксама да пракуратуры, каб тая распачала расьсьледаваньне злачынстваў АК і прыцягнула вінаватых да крымінальнай адказнасьці.

### Пустазельле

Саюз фэрмэраў Летувы заклікаў сялянаў распачаць з лістапада ўсеагульны страйк. Урад арганізаваў некалькі сустрэчаў з ініцыятарамі страйку, але перамовы зайшлі ў тупік. Прэм 'ер-міністр А. Шляжавічус заявіў, што ўрад зрабіў усё магчымае і задаволіў многія патрабаваньні фэрмэраў. Напрыклад, створаны спрыяльныя ўмовы дзеля экспарту сельгаспрадукцыі і наадварот — увесь імпарт абкладзены высокім мытам. Аднак урад не прыняў ультыматум аб адміністрацыйным рэгуляваньні закупачных цэнаў і ўстанаўленьні квотаў на вытворчасьць. Прэм 'ер лічыць, што гэтыя патрабаваньні — настальгія па сацыялізму ды інтрыгі пэўных палітычных сілаў, а сяляне, маўляў, не разумеюць, што пацерпяць найперш самі. Калі падвысіць закупачныя цэны, як патрабуюць сяляне, напрыклад, на малако да 30—35 цэнтаў за літр, то кілаграм масла стане каштаваць 2,5—3 даляра, а гэта значыць, вышэй, чым кошты на сусьветным рынку. Што будзе рабіць цэлы мільён вяскоўцаў, калі рынак Летувы захлісьне хваля больш танных і якасных тавараў з Захаду? — пытаецца прэм 'ер у завадатараў страйку.

### Адтэрмінаваньне

Як вядома, Летува абвясьціла, што ўводзіць з 1-га лістапада візы для грамадзянаў СНД. Аднак, дакляраваць аказалася прасьцей, чым увасобіць на практыцы.

13 кастрычніка ўрад рэспублікі ўнёс зьмены ў пастанову пра візавы рэжым. Да 1-га ліпеня 1994 года грамадзяне СНД змогуць прыяжджаць без візаў — трэба будзе толькі мець запрашэньне адпаведнага ўзору ад тутэйшага жыхара.

**В. С.**





# ЭМІГРАЦЫЯ

## Кыргызкія беларусы хочуць вярнуцца дамоў

**У гады існаваньня Савецкага Саюза шмат жыхароў эўрапэйскай часткі краіны апынулася ў рэспубліках Сярэдняй Азіі: адны накіроўваліся туды, каб ажыцьцяўляць «культурную рэвалюцыю», другія — каб уздымаць эканоміку, трэція трапілі туды ў пошуках лепшага жыцьця. У выніку да нядаўняга часу толькі ў Кыргыстане налічвалася каля 9 тысяч нашых землякоў. У мінулым годзе нацыянальна сьвядомыя беларусы ўтварылі суполку «Сьвітанак». Гутарка з намесьнікам старшыні Рады Суполкі Сьмятанкам Ігарам Генадзьевічам прапануецца чытачам «Пагоні».**

— Суполка стваралася ў мэтах захаваньня мовы, культуры, традыцый Бацькаўшчыны. Філіі яе ёсьць па ўсёй краіне. У суполку ўваходзяць члены 350 сем 'яў. Чатыры разы ў год адбываюцца агульныя сходы, на якіх гісторыкі чытаюць лекцыі пра мінуўшчыну Беларусі. Пры «Сьвітанку» дзейнічае ансамбль, які выконвае беларускія песьні і танцы. У гэтым годзе мы разам сьвяткавалі праваслаўны Вялікдзець. Мне дзіўна, што на Беларусі грамадзтва падзялілася на два супрацьлеглыя лагеры: дэмакратаў і камуністаў. У нашай суполцы таксама ёсьць людзі з супрацьлеглымі палітычнымі поглядамі, але ж гэта не перашкаджае ім сябраваць, праводзіць разам вольны час і нават займацца камэрцыяй.

**— Калі ласка, скажыце, дзеля чаго Вы прыехалі ў Горадню?**

— Я прыехаў сюды, каб арганізаваць перасяленьне членаў суполкі з Кыргыстана на Беларусь. Жадаюць прыехаць 80 сем 'яў. 40 з іх хацелі б ажыцьцявіць гэта у бліжэйшы час. Прычына — хвароба росту маладых дзяржаў. Калі чалавек не зьяўляецца кыргызам па нацыянальнасьці, то адчувае няўпэўненасьць у заўтрашнім дні.

**— А чаму ў людзей зьявілася такое пачуцьцё? Ці, можа, ў Кыргыстане існуе дыскрымінацыя па нацыянальнай прыналежнасьці?**

— Нягледзячы на тое, што афіцыйныя ўлады краіны праводзяць дэмакратычную палітыку, нават робяць захады па абароне правоў нацыянальных меншасьцяў, на пабытовым узроўні адчуваецца, па меншай меры, нелюбоў з боку карэннага насельніцтва да славянаў. На вуліцы часта кыргызы падыходзяць і абражаюць, лепей у такім выпадку змаўчаць.

Пакуль Вярхоўны Савет ня прыняў закон, які б абараняў правы нацыянальных меншасьцяў. Затое ён не зрабіў рускую мову дзяржаўнай нароўні з кыргызкай. Можна зразумець, што беларускі парлямэнт зацьвердзіў у якасьці дзяржаўнай толькі беларускую мову, бо яна роднасная з рускай, і вывучыць яе не складана, з кыргызкай жа іншая справа. Афіцыйна дыскрымінацыі няма, але ж калі страціў работу, то ўладкавацца потым будзе вельмі складана. Зараз 99 працэнтаў кіраўнікоў прадпрыемстваў, навучальных і мэдыцынскіх устаноў — кыргызы, раней было інакш.

Прыватызацыя дзяржаўных прадпрыемстваў ажыцьцяўлялася толькі карэнным насельніцтвам. Крэдыты атрымлівае таксама толькі яно.

Непакоіць суседзтва з Таджыкістанам і Аўганістанам. Акрамя таго, у Кыргыстане да ўлады рвуцца на[illegible]налісты. Таму мы вельмі ўдзячныя кы[illegible]каму народу, што ён прыкладае ўсе намаганьні, каб разьвітацца з намі мірным шляхам, але ж баімся, што штосьці можа зьмяніцца, і хацелі б ад 'ехаць хутчэй, пакуль нічога ня здарылася.

**— Ці валодаеце Вы інфармацыяй, колькі чалавек ужо пераехала з Кыргістану?**

— За апошні час краіну пакінула каля 200 тысяч чалавек. Я ўпэўнены, што ў недалёкай будучыні гэта можна будзе назіраць і ў Казахстане. Ад 'яжджаюць у пераважнай большасьці людзі з вышэйшай адукацыяй: дырэктары прадпрыемстваў, дактары, выкладчыкі навучальных устаноў, інжынеры. Беларусы, напэўна, апошняя нацыя, якая вырашыла перасяліцца. Кыргызы добра ставяцца да нас, лепей, чым да рускіх, але ж у мяне на твары не напісана, хто я па нацыянальнасьці. Яны лічаць нас нацыянальнай меншасьцю, якая ім нічым не пагражае з-за невялікай колькасьці.

**— А чым ў такім выпадку пагражаюць кыргызам, напрыклад, рускія?**

— Як і ў большасьці былых савецкіх рэспублік, якія атрымалі самастойнасьць (выключэньне, напэўна, толькі Беларусь) рускамоўнае насельніцтва разглядаецца ў Кыргыстане, як нямая калона ў правядзеньні нэакаланіяльнай палітыкі.

**— А чаму вы прыехалі менавіта ў Горадню?**

— У радыяцыйныя раёны мы нават не зьвярталіся. Берасьце — міжнародны перавалачны пункт, таму туды перасяліцца няма магчымасьці. І мы спынілі свой выбар на Віцебшчыне і Гарадзеншчыне. У нас была папярэдняя дамова з кіраўніцтвам горада аб выдзяленьні пляцаў пад будаўніцтва прыватных дамоў альбо аднаго 40-кватэрнага будынка за кошт саміх перасяленцаў і цэнтралізаваных крэдытаў Беларусі. На гэта была атрым[illegible] таксама згода нябожчыка Арцымені. [illegible]ак, калі справа дайшла да канкрэтнага вырашэньня пытаньня з зямлёй, мы атрымалі адмоўны адказ.

**— Чым ён быў аргумэнтаваны гарвыканкамам?**

— Прыводзілася шмат довадаў аб вялікай чарзе на кватэры саміх мясцовых жыхароў, патрэбах чарнобыльцаў, інвалідаў і гэтак далей, але ж яны не прасілі аб выдзяленьні нам чыіх-небудзь кватэр альбо земляў, падрыхтаваных для іншых.

Напрыканцы нашай размовы высьветлілася рэальная падаплёка адмоўнага адказу. Спадар Масквічоў, начальнік УКБ гарвыканкама, сказаў, што Горадня не будзе піянэрам у справе ўладкаваньня вымушаных беларускіх перасяленцаў.

**— Што Вы зьбіраецеся рабіць далей?**

— Ведаеце, па-першае, мы ня просімся ў Падмаскоўе і таму спадзяемся, што дзесьці ў калідорах улады Горадні мы знойдзем хаця б аднаго чалавека з прозьвішчам Гарадневіч, які паспрабуе зразумець, што не ад лёгкага жыцьця мы, у многіх з якіх у Кыргыстане нарадзіліся дзеці, а некаторыя пражылі 30—40 гадоў, зьбіраемся перасяліцца. Па-другое, кожная цывілізаваная дзяржава павінна прымаць сваіх людзей, калі іх вымушаюць вярнуцца на Радзіму, таму мы не губляем надзеі знайсьці паразуменьне ў кіруючых колах Беларусі.

Шчыра дзякую КАФ «Бацькаўшчына» і асабіста яе кіраўніку М. Маркевічу за дапамогу, бо гэта адзіная ў горадзе арганізацыя, якая неабыякава аднеслася да лёсу беларусаў з замежжа.

**Гутарыў А. ДУК.**

---

Выступіўшы такім моцным блокам, як Саюз Дэмакратычнай Лявіцы, шмат у каго з беларускіх выбаршчыкаў пахіснула веру ў тое, што самі з годнасьцю здолеем прадстаўляць сваю грамадзкасьць у парлямэньце. Яшчэ глыбей усьведамляецца комплекс непаўнацэннасьці, што мы горшыя за іншых, комплекс мужыка, што верыць толькі ў цара-бацюшку, які ў будучым ні з т. зв. лявіцай. Аднак такая вера нам нічога ня дасьць, таму што левыя групаваліся вакол сацыял-дэмакратаў і самастойна яны кіраваць у Польшчы ня будуць, бо іх сёньняшні посьпех, каля 37,57% мандатаў па ўсёй краіне, ня што іншае, як вынік памылак іншых партый, якія разам атрымалі падтрымку большасьці выбаршчыкаў, але іх раздробленасьць прывяла да таго, што яны ня здолелі дзяліць дэпутацкія мандаты, згодна палажэньню аб выбарах.

Мінуўшыя выбары яшчэ раз паказалі, што сярод беларусаў, а таксама праваслаўнай грамадзкасьці няма асобы, якая мела б палітычны аўтарытэт, групавала вакол сябе ня толькі кіраўнікоў розных арганізацый, але і была добра вядомай сярод звычайных людзей. Былыя кандыдаты, якія прадстаўлялі Праваслаўнае Брацтва, Беларускі Саюз, Беларускае Грамадзка-Культурнае Таварыства, альбо як Мікола Бушко — Арганізацыйны камітэт Міжнароднага фэстывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, усяго толькі вядомыя як грамадзкія дзеячы на ўзроўні гміны ці павету, але не ваяводзтва.

Разрэклямаваць палітыка, які здолеў бы выйграць у У. Цімашэвіча, за некалькі месяцаў перадвыбарчай кампаніі ня вельмі проста. Фарміраваньне такой асобы вымагае шматгадовай працы, прычым не аднаго чалавека, і, зразумела, яе аўтарытэт павінен быць падмацаваны пэўнай палітычнай арганізацыяй. Данесьці гэта да шырокіх масаў могуць толькі добра з 'арганізаваныя структуры, якія павінны ўзьнікаць з патрэбаў зацікаўленых людзей. Беларуская грамадзкасьць, на жаль, пакуль нечага чакае, і ў сілу свайго безуладдзя ўжо каторы раз ставіць на левых. Вынікам гэтага зьяўляецца тое, што мы ня маем свайго прадстаўніка ў вышэйшых уладах Польшчы, дзе, вядома, вырашаюцца і лёсы беларусаў. Можам гэта паправіць, калі аб 'яднаемся вакол агульнай мэты — разам працаваць для паляпшэньня нашага дабрабыту. І ня толькі ў Беластоку, а і ў Чарэмшы, Бельску — Падляскім, Гарадку, Гайнаўцы, Сямятычах, Сакольцы...

**Пераклаў з польскай М. М.**

---

## Ад перамены месца рэчавага рынку колькасьць праблем не зьмяншаецца

Здаецца, гарадзенскі рэчавы рынак будзе заўсёды галоўным болем для гарадзкіх улад, ды й ня толькі для іх. Стыхійна ўзьнікшы на ніжняй пляцоўцы Цэнтральнага калгаснага рынку ён не даваў ім спакою, бо ня ў стане быў умясьціць усіх гандляроў, якія займаліся сваёй справай вакол агароджы, уздоўж чыгуначнай каляіны й у іншых непрыстасаваных для гандлю месцах. Таму слушна зрабілі дэпутаты гарадзенскага Савета, вырашыўшы перанесьці яго. Але ж будаўніцтва рынка ў раёне пасёлка Паўднёвы, напэўна, самы горшы варыянт, бо, пазбавіўшы сябе і другіх ад адных праблем, яны стварылі новыя і, ў першую чаргу, для жыхароў пасёлка.

У мінулую суботу з раніцы дзесяткі тысяч чалавек накіраваліся на тралейбусах, аўтобусах, таксі і ўласных легкавіках у бок Паўднёвага, каб трапіць на рынак. І, напэўна, кожны з іх падумаў ці сказаў, як адзін мужчына, услых: «І якому дурню стукнула ў галаву пераносіць рынак менавіта туды?». Бо дабрацца да яго вельмі складана. Калі раней у бок «таўкучкі» перавозкі пасажыраў ажыцьцяўлялі тралейбусы 6 маршрутаў (калі не лічыць дадатковых) і аўтобусы больш як 10, дык толькі 3 тралейбусных і 6 аўтобусных маршруты праходзяць каля кальца «Хімвалакно», а ад яго да рэчавага рынка яшчэ каля трох кіламэтраў.

Грамадзкі транспарт і раней ня ў стане быў перавезьці усіх жадаючых на «таўкучку», наўрад ці ён здолее зрабіць гэта зараз, тым больш што непасрэдна да яе ходзяць толькі тры аўтобусы. Маршрутныя таксі і аўтобусныя экспрэсы не выпраўляць становішча. Таму многія вымушаны ісьці пехатою. Тыя ж, хто здолеў зайсьці у аўтобус, на працягу ўсяго шляху ня могуць нават паварушыцца.

Не пазайздросьціш і тым, хто вырашыў трапіць на рынак з дапамогай уласных легкавікоў, якія расьцягнуліся ад кальца «Хімвалакно» да самага рынка, бо на дарозе вельмі часта ўзьнікаюць заторы. У выніку — няспынны гул рухавікоў, забруджанае паветра. Уладальнікі аўтамашын , прыехаўшы да рынка, не жадаюць плаціць 500 рублёў за карыстаньне аўтастаянкай, таму ставяць аўтамабілі ў дварах дамоў Паўднёвага, бо на ўзбочыне шашы для іх не хапае месца.

На тэрыторыю рынка людзі трапляюць рознымі спосабамі: адны купляюць за 100 рублёў білет, а другія, вырашыўшы зэканоміць грошы, пералазяць праз невысокі плот, трэція ж спакойна праходзяць у месцы, дзе прыкладна на стомэтровым адрэзку няма ніякай агароджы.

Тыя, хто ўпершыню прыходзіць сюды, заўважаюць многае, што адрозьнівае цяперашні рэчавы рынак ад ранейшага. Гэта амаль поўная адсутнасьць лавак, і таму гандляры вымушаны раскладваць тавар на зямлі, падклаўшы газэты. Амаль не сустракаюцца бабулькі, якія б прапаноўвалі ношанае адзеньне і абутак, іншыя рэчы, якімі карысталіся раней, і падлеткаў, якія прыходзілі раней дзеля інтарэсу. На новым рынку шмат свабоднага месца, нягледзячы на тое, што гандляры стаяць шчыльнымі радамі.

Праўда, няма тут і таўканіны, якую можна было назіраць на Цэнтральным рынку. Зьмяніўся і асартымэнт тавараў: намнога болей стала зімовага абутку і адзеньня. Аднак толькі ў некалькіх месцах можна набыць беляшы і піражкі, за якімі трэба шмат часу прастаяць у вялікай чарзе. Калі раней штось ядкое можна было купіць на калгасным рынку ці ў прадуктовых крамах, якія знаходзіліся паблізу, то цяпер застаецца крыху пагаладаць, альбо шукаць што-небудзь у Паўднёвым, альбо, як прапануюць у рэкламным роліку, набыць «Сьнікерс».

Што больш за ўсё уражвае, дык гэта цэны. Яны значна ўзрасьлі з-за павышэньня курса даляра і расейскага рубля ў адносінах да беларускіх грошай. Так, зімовыя курткі каштуюць ад 70 да 120 тысяч рублёў, дзіцячыя — 25 000—45 000, джынсы — 40 000—90 000, спартыўныя касьцюмы — 40 000—80 000, скураныя курткі — 120—180 даляраў, жаночыя зімовыя боты — 70 000 рублёў — 75 даляраў, майкі — 12 000—15 500 руб., дзіцячыя зімовыя боты — 15 000—30 000, красоўкі — 40 000—90 000, пальчаткі — 6000—15 000, джынсавыя курткі — 40 000—80 000, шапкі з натуральнага футра — 30—50 даляраў.

У гэты дзень на рынку было шмат людзей, але ж большасьць з іх прыйшла сюды як на экскурсію: паглядзець і гараўнаць. Таму, хутчэй за ўсё, у недалёкай будучыні колькасьць пакупнікоў зьменшыцца, бо ўжо зараз нямногія ў стане набываць там рэчы.

**А. ДУК.**

---



## Калекцыя дзьвюх фірмаў

Незвычайная выстава ў Новым замку ў Горадні. Дзьве мясцовыя фірмы «У майстра» і «Лінт» прадстаўляюць гледачам сваю калекцыю, большасьць якой складаюць карціны гарадзенскіх мастакоў.

Найперш уражвае сама ідэя камэрсантаў — мець сваю калекцыю карцін мясцовых мастакоў. Гэта па-сапраўднаму нагадвае нешта незвычайнае, далёкае ад нашага постсавецкага жыцьця, бо сучасных камэрсантаў, бізнэсмэнаў і прадпрымальнікаў, якія ўжо і напрацавалі немалы капітал, усё ж найбольш займае думка, як яго павялічыць.

Дарэчы, сама ідэя стварэньня калекцыі ўзьнікла выпадкова. У краме «У майстра» яшчэ год таму пачалі залежвацца карціны, якія па свайму кошту былі мала даступныя пакупнікам. І фірма вырашыла закупляць іх для сябе. Некаторыя карціны трапілі ў калекцыю як прэзэнты. Калекцыю папоўнілі таксама вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Калі каго, зрэшты, зацікавіць выстава, аб ёй вельмі цікава можа апавядаць Алена Аляксандраўна Пілічава, якую вы бачыце на здымку. Акрамя таго, што яна кіруе адною з фірмаў, да таго ж шмат ведае пра мастацтва ўвогуле і пра гарадзенскіх мастакоў асабліва.

**(мм).**

**Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ.**

## Легкавікі з Фінляндыі

Пашчыраваўшы на аўтасьметніках Нямеччыны, Галяндыі, Бэльгіі і Францыі, некаторыя гарадзенскія гандляры аўтатранспартам пачалі асвойваць месцы аўтазлому ў Фінляндыі. На думку тых жа гандляроў, патрыманыя легкавікі ў Фінляндыі каштуюць значна таньней, чым у краінах Заходняй Эўропы.

**Г. У.**





# ЛІТАРАТУРА.

С. АСТРАВЕЦ

## Дзяды

*Цэгла мне кажа:*
*«Я была калонай».*
*Ален Баскэ.*

Падвойны аўтобус спыняецца і бальшыня пасажыраў пакідае яго, выпроствaецца ўздоўж выбрукаванага сотамі ходніка. Аўтобус, выпаражніўшыся, памкне наперад, нагоніць нядаўніх сваіх пасажыраў, а потым збочыць налева. Яны ж з паловы гэтага шляху рушаць наўскасяк пляца ў тутэйшы downtoun*.

Немудрагелісты сцэнарый, які паўтараецца безліч разоў, бы ранішні маршрут да працы, зрэдку знарок крыху зьмяняны перасадкай з аўтобуса ў тралейбус.

Газэтны кіёск, крама з гадзіннікамі, парфумная, палеваруч — «кілбасы» і г. д.

Сёньня на старым, вельмі камэрным тызэнгаўзавым пляцы ў атачэньні прысадзістых — пад чырвонай дахоўкай — камяніц шчыльна ад войска. Усё адно, каб у пазьнебарочнай гасьцёўні за сэрвіраваным сталом паселі б збройныя жаўнеры з «калашнікавымі».

Равуць рухавікі. БТР-ы, «кацюшы», самаходныя гарматы, мэталічныя парасоны радыёантэн. Бракуе толькі танкаў.

Дзятва ў захапленьні. Старэйшыя пазіраюць абыякава, некаторыя скэптычна. Чую кпліва: «Рускія рыхтуюцца да вайны».

Перасякаю пляц. Правадыр паранейшаму стаіць на сваім месцы. Спатыкаю знаёмца. Шпацыруе з дзецьмі. Называе іх мне з гонарам у голасе: «Кірыл, Ільля». Разумны чалавек. Нядаўна няўдала балатаваўся ў народныя дэпутаты.

Выбаршчыкі не прыйшлі галасаваць. Пазьней у гарадзкой газэце быў надрукаваны чытацкі ліст. Людзі абурана пісалі, што пры адным кандыдаце, ды яшчэ партыйным, выбары на іхнім участку заўсёды будуць марнымі.

Гэтага, безумоўна балючага для яго, пытаньня сьвядома не закранаю.

«Бачыў? Што, войска? Але».

Па вуліцы міма нас ідзе маніфэстацыя з чорнымі харугвамі ды белымі з чырвоным пасам сьцягамі.

«Гэта войска нагналі, каб дзядам перашкодзіць,— тлумачу я.— «Дзень прызыўніка», называецца, прыдумалі. Абавязкова ў той жа дзень і на тым месцы».

«Дзяды»?. Папраўляе ён мяне запытальна. «Але, так. Мармычу я адказ. Прывычна. Слова спольшчанае... Ну, бывай».

Подбегам і нейк бокам, спыняючыся, каб шчоўкнуць затворам апарата, за «дзядоўнікамі» сьледуе мой знаёмы фатограф.

«Пятровіч»! Ён абарочваецца. Вітаемся. Далей шыбуем удвох разам.

«Ці разглядзеў на плошчы «град», цікавіцца ён у мяне. «Гэта, што 10 кэмэ зямлі за раз выпальвае?» «Ну так, 16 квадратаў... На Даманскім выпрабавалі».

«Усё вы, Пятровіч, ведаеце. Хоць і ў войску не служылі»...

Гандлёвая вуліца, адна з апошніх па-старому брукаваных, узьбіраецца крыху ўгору. Паўсюдна — рыштаваньні, чарапашыным рухам адбываецца рэстаўрацыя.

Моладзь са сьцягамі ўмыкнула наперад. У прасьвеце паміж муроў вуліцы бачым бела-чырвона-белыя полкі. На іх ужо ніхто не зважае. Прызвычаіліся.

Яшчэ год назад міліцыянты палявалі «дзядоўнікаў» на могілках, як нейкіх памыйных катоў, і продкаў мусілі памянуць у памяшканьні — з Пагоняй пад чырвона-зялёным арнаментным сьцягам.

Уцякалі ўроссып. «Фуражкі» з дубцамі скакалі сьледам у шынялёх цераз капцы. Справіліся самі. Хоць непадалёк — у мэдвучылішчы напагатове чакала падмацаваньне — гарадзкі партактыў, адарваны ў нядзелю ад сямейнага адпачынку.

Месца, дзе быў зруйнаваны касьцёл, усе абмінулі, хоць можна было прайсьці нацянькі. Потым сюды яшчэ вернуцца, каб запаліць сьвечкі. Месца гэтае адгароджана ад люднага вялікага пляцу агульнагарадзкой Дошкай гонару з павялічанымі фотапартрэтамі перадавікоў вытворчасьці. Гэта гучыць глупа, кпліва, іранічна, але так ёсьць у самой справе.

Замкавая вуліца выгінаецца, бы рачная лукавіна паміж стромых камяніц-берагоў. Тады яшчэ не будавалі шырокіх простых праспэктаў імя ўсялякіх угодкаў.

Пятровіч просіць пачакаць. Ён спыніўся, бо заўважыў (бакавым зрокам, скеміў я) тое, што само прасілася ў кадр. Акно, буйна закратаванае, з шыбамі, заклеенымі газэтамі. Праз краты сумна пазіраюць на вуліцу «Труд», «Правда», «Рабочая трибуна», яшчэ нейкія цэнтральныя друкі.

Ён адыходзіцца на колькі крокаў, прыкладае фотаапарат да вачніцы, мружыцца і два-тры разы пстрыкае.

«Хадземце», кажу я. Мне добра вядома, што ў нашай газэце падобнага не надрукуеш[illegible]шай у горадзе няма. Ён, як бы ра[illegible]ючы маю скэптычнасьць, засмучана тлумачыць: для асабістага архіва, хай будзе.

Раскрыжаваньне з мігатлівымі сьветлафорам[illegible]така, спатыкаючыся, часова злучак[illegible] ў адно Навазамкавая з Замкавай.

Па-над імі дзёрзка парушае панярховасьць суседняе забудовы мінарэт пажарнай вежы. З-за дзьвярэй дэпо, аздобленых вялікімі чырвонымі зоркамі, выходзяць гурмой міліцыянты. Ні друкоў, ні кабураў не відаць. Мелі часу ахоўнікі парадку пераканацца, што беларусы — люд ціхмяны і гасіць пажар народнага абурэння няма патрэбы, бо няма і агню, а толькі прысак.

А вось і яны самі — дзьве-тры соткі інтэлігэнтаў з бела-чырвона-белымі сьцяжкамі на штрыфелях. Мікрафон, чорныя скрынкі гукаўзмацняльнікаў. Усё як мае быць.

Пятровіч адразу сігае завіхацца да прамоўцаў, а я прымыкаю да купкі вакол аднаго народнага дэпутата. Ён нядаўна вярнуўся з сэсіі.

«Ну як там Дземянцей, ці навучыўся хоць адной мовы?» Той толькі крывіць рот. А наогул якія навіны ў Менску?

«Навіны? Прыяжджаў вось да Вільні адзін таварыш з маскоўскага ЦК. Падбухторваў: чаму б вам, кажа, не стварыць польскую савецкую сацыялістычную рэспубліку ад Вільні да Львова?..»

Усе слухаюць моўчкі. Размаўляць ужо не хочацца.

Тым часам нейкі краязнаўца апавядае, як дагэтуль у нас па-хрысьціянску паміналі продкаў. Узмоцненыя словы хваляй адбіваюцца ад фасаду сінагогі. Дзіўнае суседзтва.

Потым моладзь чытае ўласныя вершы. Усё больш аб Богу, што пакінуў Беларусь. Сапраўды — нацыя паэтаў.

Лаўлю сябе на думцы, што ў галаве само сабой пачынае складацца апавяданьне. Хаця, не. Заўважыў гэта я ўжо раней, а толькі прызнаю[illegible] сабе зараз. Сюжэтаў у мяне ў га[illegible] процьма, і новыя, не даючы папярэднім высьпець як сьлед, таксама нярэдка падзяляюць іхні няўдалы [illegible]ёс. Кожнага разу шкадую тады, як [illegible]енароджаным дзіцяці.

З надрыўным ровам паўз сходку праяжджае на вялікай хуткасьці вайсковы аўтамабіль... Усе міжволі абарочваюцца.

Пры канцы сьвятар у цывільным парасейску распавёў пра бога і адчытаў малітву за наш бязбожны народ. Хто ўмеў, перахрысьціўся. Але такіх знайшлося няшмат.

■

Трымаюся за паручню ў тралейбусе і вяртаюся думкамі на мітынг. Скончыць тым, што перажагналіся хто мог, а гэтых было небагата? Надта абцята, мусіць, выйдзе.

Спрабую вымысліць нейкі іншы акцэнт, які б дазволіў мне паставіць у канчатку гэтага аповяду ня млявае шматкроп'е, а, прыкладам, тры клічнікі, або лепей — пытальнік, ды яшчэ і перакулены. Як у іспанскай мове.

Думаць перашкаджае дзядзька, што безцырымонна дыхае мне ў патыліцу. Ня бачу яго, але пераканаы, што той мажны і нязграбны.

Напэўна робіць грузчыкам на рыббазе, бо тлумачыць суседу з веданьнем, адкуль якая прывозіцца рыба і што хек — ён надта вымерзлы, сухі, ужо лепш, маўляў, мінтай.

«Якая з Калінінграда можа быць рыба? Ды і з Каспія... Вот ціхаакіянская — другое дзела. Але вагон аттуда ідзе месяц. А зараз ваабшчэ саставы стаяць вакруг Масквы. Ніхто разгружаць ня хоча. Гэта яшчэ адны дурныя беларусы разгружаюць...»

Ён робіць паўзу і працягвае. Зато як прыйдзе рыба, так адразу тысяча тон. Хаця, ён мысьлена ўзважвае, калі на вобласьць раськінуць, выйдзе ўсяго па бочцы на дзярэўню...

Яны яшчэ нешта абмяркоўваюць. Зарплату, гарэлачныя талоны, жонак. Потым рыбнік, як штосьці важнае ўспомніўшы, мовіць апошнія словы і выходзіць на прыпынку.

А ў мяне ў галаве гучыць сказаная ім фраза. «Народу на базары было — цьма. Так і валіў, так і валіў тоўпамі».

«Тоўпамі-тоўпамі», пачынаю машынальна паўтараць я і разумею, што стаўлю кропку.

* Дзелавая частка горада (англ.).

9-10.XI.90.

Адам ГЛЁБУС

## НЮ

### *Апавяданьне*

Невялічкі аскетычны двор. З боку вуліцы той двор адгароджае фундамэнтальны паркан з цяжкою класічнаю форткаю. З другога боку, паралельна грунтоўнаму паркану, цягнуцца запыленыя шыбы дрэваапрацоўчага прадпрыемства. Паміж масіўнаю фортkaю і мэблявым цэхам прадпрыемства месьціцца двухпавярховы пасьляваенны будынак хімчысткі. Каля ўваходу ў цэх і ў хімчыстку стаяць укапаныя ў зямлю аднолькавыя лавы, чые дошкі зрэзаны падлеткавымі сьцізорыкамі. Глыбока ў дзерава ўтоплены надпісы: Мілослаў+Веранікa, АС — ДС... У двары самоцішча высознае дрэва, стромкая таполя. Яна расьце каля трохпавярховага тарца, які загароджвае пустэльны двор з чацьвёртага боку.

На асьветленым тарцы трымцяць празрыстыя, нібыта разбаўленыя вадою, цені тапалёвых галінаў. Тарэц — малочна-жоўты, а цені — сьцюдзёна-блакітныя і нагадваюць рэкі, намаляваныя на контурнай мапе.

На ўзроўні трэйцяга паверху, за галінамі хаваецца адзіны ў двары гаўбец. Ён жорстка і выразна акрэсьліваецца на плоскасьці сьцяны сваімі чорнымі парэнчамі. Ні вокнаў, ні дзьвярэй на тарцы няма, і таму сімэтрычна пасаджаны гаўбец выглядае дэкаратыўна і скульптурна.

На гаўбцы — двое, мужчына і жанчына. Яны стаяць і паляць цыгарэты. Ён абапіраецца лакцямі на сталёвыя парэнчы. Яна прытулілася сьпінаю да атынкаванае сьцяны. Яны паляць і глядзяць на ледзь заўважнае пагойдваньне запыленае лістоты.

У жанчыны цьмяна-зялёныя, нібыта жнівеньская лістота, вялікаватыя вочы. У яе разумны пагляд і спакойны твар. У жанчыны хімічная завіўка, і масянжовыя спружынкі валасоў зіхацяць на вечаровым сонцы.

На жанчыне кароткая спадніца і лёгкая кашуля, такая белая і празрыстая, што праз яе відаць невялічкія грудзі з вострымі саскамі. Жанчына стаіць на гаўбцы басанож. Ёй прыемна стаяць на роўным бэтоне, які не пасьпеў астыгнуць пасьля ліпеньскага дня.

У мужчыны даўгаваты твар, і калі ён робіць зацяжку, на худых пашчэнках іскрыцца аднадзённая шчэць. Мужчына паклаў рукі на гафтаваныя парэнчы. На ім палатняная кашуля і пацёртыя джынсы. У яго зусім кароткая стрыжка, досыць акуратная, але занадта ўжо кароткая, і можна падумаць, быццам яго стрыглі пад прымусам, і сьветлыя валасы ледзь адрасьлі. Мужчына, як і ягоная жонка, стаіць на гаўбцы басанож.

Калі б мужчына выцягнуў руку, ён змог бы дакрануцца да шаўкавістае ад пылу лістоты. Ён здолеў бы дастаць рукою галіну высокае, вышэйшае за трохпавярховы дом, таполі. Калі б ён толькі захацеў, ён нават мог бы зламаць тую галіну, хто ня ведае, якая крохкая таполя? Але мужчына гэтага ня робіць.

— Таполя — гожае дрэва,— кажа мужчына.

— Прыгожае дрэва — мая таполя,— гаворыць жанчына.

— У таполі цяжкія лісты.

— Цяжкія лісты ў таполі.

— У таполі крахольная галіны.

— Крахоля тапольнае дрэва.

— Крахоля вельмі тапольнае дрэва,— гаворыць ён.

— Вельмі-вельмі тапольнае дрэва,— кажа яна.

— Па крахоле ня ўлезеш на гаўбец.

— Па крахоле ня злезеш з гаўбца.

— Так, бо ў крахолі ненадзейныя тапольныя галіны.

— Такія тапольныя, што абломяцца, калі ты станеш на іх. Яны ня вытрымаюць тваёго цяжару. Яны занадта крохкія і калі іх зломіш, яны моцна пахнуць гаркатою і летам.

Мужчына расьцiскае канчар аб парэнчу і кідае яго долу, на чэзлы траўнік, да камля гонкае таполі. Жанчына робіць тое ж. Яны ідуць у пакой. У прасторны пакой з пабеленымі сьценамі, з дашчанай нефарбаванай падлогаю, з высокай стольлю. Там амаль няма мэблі, толькі паліраваная шафа і разасланы ложак, да якога прытуліўся нізкі столік. На ім — эмалёвы глечык з вадою, шклянка і талерка з яблыкамі, белы наліў.

Жанчына скідае спадніцу і празрыстую кашулю. У яе невялікія грудзі з вострымі саскамі. Яна не саромеецца сваёй аголенасьці, сваіх грудзей і цёмнага трохкутніка вышэй паміж сьцёгнамі. Яна кладзецца на крухмальную прасціну.

— Ідзі да мяне,— гаворыць жанчына.

Мужчына кладзецца побач з ёю.

У жанчыны вялікаватыя, цёмныя, як тапалёвая лістота, вочы.





# ПАДАРОЖЖЫ

Алесь АСТРАЎЦОЎ

# На карнавал у каралеўскую краіну, дзе на палях расьце ячмень




## ЧАСТКА ШОСТАЯ: «ФЭСТЫВАЛЬ»

### 1. Пашпартны кантроль

Пры выхадзе з парому два данійскія памежнікі правяралі наяўнасьць пашпартаў. Акрамя каротkіх электрашокінгаў, якія тырчэлі з адмысловае кішэні на правае нагавіцы, ніякай зброі пры іх не было.

З мэтай памалявацца перад камэрай, нехта з «афіцыйных асобаў» дэманстратыўна дапамог нейкай кабеце зьнесьці па трапу досыць вялікага дзіцёнка, у чым не было патрэбы. Як высьвятлілася ўнізе, яна аказалася ня бежанкай. Усе рассьмяяліся.

На пашпартным кантроле памежнікі былі відавочна шакіраваны нашымі пашпартамі й агульнай — адной на ўсіх візай. Яны паціскалі плячыма й ня ведалі, што з намі рабіць. Параіўшыся, нас спыталі, ці маем мы па 300 кронаў на чалавека. Дрэнна арыентуючыся ў курсе, мы паказвалі тысячу даляраў. Як быццам бы гэта іх задаволіла.

Тут у канторку да памежнікаў забег наш сябра Міхель Якабсэн і пачаў ім нешта тлумачыць. Яны добразычліва заўсьміхаліся, праштампавалі нашыя пашпарты й прапусьцілі нас наперад.

### 2. Мытня

У факсе, які Міхель даслаў нам у Менск, ён папярэджваў, што паром выкарыстоўваюць бежанцы, а таму ў Капэнгагене вельмі жорсткая мытня — нельга везьці больш за 200-ці цыгарак і літр гарэлкі на чалавека.

Трэба адзначыць, што на гэты раз мытня проста не працавала.

### 3. Увага

Нас сустракаў фэстывальны аўтобус — «Мэрсэдэс», якім кіраваў вялікі каротка стрыжаны хлопец. Перад уваходам стаяла гожая бландзінка з «уокі-токі» у руцэ й віталася з намі. Адобва былі ў аднолькавых белых майках з надпісам «Roskilde festival—1993» і досыць зьдзіўлена разглядалі нас, магчыма, таму, што мы аказаліся больш звычайнымі людзьмі, чым яны сабе ўяўлялі.

### 4. Кароны

Побач з марскім вакзалам на беразе стаяць дзьве невялікія альтанкі з залатымі каронамі на даху. Як потым мы даведаліся, гэта — каралеўская прыстань.

### 5. Фантан

Пры выезьдзе з порту справа мы ўбачылі вялізную бронзавую калясьніцу, запрэжаную дужымі валамі, якая быццам бы імкліва спускалася з гары. Зьверху, адтуль, дзе стаяла бронзавая багіня, вадаспадам сьцякаў моцны паток вады.

Лявон з захапленьнем азірнуўся: «Пачынаецца...».

### 6. Гід

Аўтобус ехаў па горадзе, і Міхель узяў мікрафон. Мы азіраліся на кожны помнік, на кожную прыгожую камяніцу, але ён называў толькі самае істотнае, на яго погляд. Я запомніў палац каралевы, парлямэнт і новую кітайскую рэстарацыю.

### 7. «Акапаныя танкі»

Мы ехалі па «хайвэю». Паабапал дарогі былі раськіданы «вёскі» — невялікія мястэчкі з амаль аднолькавых аднапавярховых катэджаў, схаваных за жывыя платы з ахайна падстрыжаных хмызоў. Бачнымі заставаліся толькі двускатныя дахі. Алезіс: «Як акапаныя танкі!»

У войску ён служыў танкістам.

### 8. Сьняданак

Нас прывезьлі ў вёску Ээруп да маці Міхеля Ёны Якабсэн — невысокай сівой кабеты, з добрымі вачыма за вялікім шклом акуляраў. У доме ўжо чакаў накрыты на данійскі лад стол — сухі сьняданак, малако, ёгурт і шакалад у пакунках, гарбата й кава ў пластмасавых гарлачыках. Некаторыя пачалі канфузьліва разьбірацца, як усё гэта трэба ўжываць.

### 9. Бранзалет

За намі вярнуўся аўтобус і тая ж дзяўчына выдала для кожнага мапы-схэмы фэстывалю, пропускі за сцэну й аднаразовыя службовыя бранзалеты, якія замянялі пропуск на службовую тэрыторыю, якія немагчыма перадаць іншай асобе. Пакуль мы ехалі на фэстываль і Міхель пасатыжамі «акальцоўваў» нас, Лявон здолеў зашчапіць свой бранзалет паза рукой.

Прыйшлося потым чакаць перад брамай, пакуль Міхель сходзіць у офіс і прынясе дублікат.

### 10. Лягер

Тое, што рабілася на фэстывалі, прывяло нас у сапраўдны шок. Гэта было немагчыма ўявіць, а таму вельмі-вельмі цяжка апісаць. Тысячы намётаў, тысячы аўтобусаў і машынаў з усяго сьвету, дзясяткі тысячаў людзей: панкі, рокэры, хіпі, мэталісты, «сатаністы», «анёлы»... Усё гэта гуло на самых незвычайных мовах і рухалася, уздымаючы аблокі пылу — стаяла трыццаціградусная сьпёка.

Усё нагадвала савецкія фільмы пра вайну: лета сорак першага, бежанцы на дарогах, машыны, танкі, шыхты жаўнераў...

### 11. Піва

Галоўны спонсар фэстывалю — данійскі піўны магнат «Карлсбэрг». Дарэчы, каб ня было бітага шкла, на тэрыторыю фэстываля нельга праносіць пляшкі — за гэтым вельмі моцна сочаць. Піва на фестывалі каштуе прыкладна ў тры-чатыры разы даражэй, чым у самім горадзе Роскілд. У першы дзень, калі яшчэ няма канцэнтратаў, дзясяткі тысячаў чалавек цягнуцца ў горад, напіваюцца там таннага піва, кожны бярэ з сабою яшчэ цэлую скрынку й усе, вельмі няпэўным крокам, сунуцца назад — да намётаў. Гэткі своеасаблівы «падвоз боепрыпасаў».

### 12. «Адкуль яны!»

Мы сарамліва паставілі свае зеленкаватыя намёты на самым ускрайку гэтага markaляровага мора часовых дахаў і сабраліся перакусіць. Зацікаўлены нязвыклай мовай, маладзенькі швэд, які «адпачываў» побач, нешта запытаў у Міхеля. Потым я пацікавіўся ў яго, на якой мове яны размаўлялі. Міхель крыху задумаўся: «Ён — па-швэцку, я — па-данійску».

### 13. Экскурсія

Выкарыстоўваючы «прапускную» магчымасьць нашых службовых бранзалетаў, мы пайшлі аглядаць фанэрны горад, які за тыдзень вырас на ўскраіне Роскілда ў дваццаці мілях ад Капэнгагэна, каб потым зьнікнуць за некалькі дзён і зноў адрадзіцца роўна праз год.

Гэта «чарадзейства» адбываецца ўжо больш дваццаці гадоў.

### 14. «Green Stage»

Зялёная сцэна месьцілася перад самай брамай. Гэта вялізарнейшы шацёр, пад якім можа схавацца тысячаў дваццаць-трыццаць гледачоў. На самым зялёным даху сядзіць божая кароўка велічынёй з сапраўдную карову, а ўнутры, пад чорнай стольлю лётаюць такія ж стракозы, поўзаюць павукі з жахлівымі кіпцюрамі.

Тут адбываліся самыя «крутыя» мэталёвыя канцэрты.

### 14. «Orange Stage»

На Аранджавай сцэне шатром накрытая толькі сама сцэна — яна й зьяўляецца сымболем фэстывалю. Тут выступаюць толькі супэр-зоркі. З двух бакоў стаяць дзьве вежы вышынёй з пяціпавярховы дом, забітыя ўнутры гукааднаўляючымі калёнкамі. Калі іх уключаюць на поўную магутнасьць, музыку чуваць, мабыць, кілямэтраў за дзесяць.

Калі мы праходзілі побач, апэратары «прадувалі панараму». Нас ледзь ня зьнесла гукавым ветрам. Але чысьціня музыкі затое была найвыдатнейшая.

### 16. «Blue and white Stage»

Гэтыя дзьве пляцоўкі былі вельмі папулярнымі, бо тут выступалі зусім невядомыя ў нас гурты з Даніі, Швэцыі, Францыі й Нямеччыны.

Праўда з Белай сцэнай зьвязаны адзін эксцэс. Раней на гэтым месцы быў таксама лягер, дзе была «швэцкая тэрыторыя». Калі яны прыехалі сёлета й убачылі на «сваім» месцы плот, дык вельмі абурыліся, і нават іхнія дэлегацыі хадзілі лаяцца да адміністрацыі фэстываля, маўляў, яны вымушаны былі сяліцца ў розных кутках, што вельмі ўскладніла традыцыйныя сустрэчы паміж знаёмымі й сябрамі.

### 17. «World Stage»

Тут павінна было выступаць наша «Новае неба». Гэта сцэна — самая маленькая на фэстывалі, якая можа сабраць самае большае пару тысячаў гледачоў. Стала відавочна, што яна служыць дзеля экзотыкі й, калі мець хоць нейкае імя, тут лепш не выступаць. Міхель крыху падбадзёрыў,указаўшы на ятку «Карлсбэрг»,якая месьцілася побач: «Піва ёсьць—слухачы будуць».

Слабае суцяшэньне, калі ўлічыць, што на ўсёй вялізнай тэрыторыі фэстывалю ў некалькі дзясяткаў гэктараў такія яткі месьціліся літаральна на кожным кроку.

### 18. Пікнік на ўзбочыне

Пад вечар да цэнтральнага ўваходу пад'ехала Ёна на сваім маленькім «Фордзе-Фіесьце». Мы збочылі з дарогі, і яна паставіла каля машыны раскладны столік. Гэта быў абед! Яна прывезла й катлеты, і бульбу, і каву, і печыва, і напоі, дыню і яшчэ шмат чаго.

Нам было вельмі няёмка, бо каб накарміць дзесяць чалавек — у Даніі гэта вымагае вельмі вялікіх грошай.

Каб мы ня зьмерзьлі ноччу, Ёна навезла нам стосы коўдраў, спальнікаў і турыстычных кілімчыкаў. Каб нашыя вакалісты не пасадзілі голас перад канцэртам, мы папрасілі яе ўзяць дахаты Касю й Лявона.

### 19. Стрэс

Сьцямнела досыць хутка. Вакол рабілася нешта неверагоднае. Мы сядзелі, быццам у цэнтры варонкі, а вакол нас усё віхурылася й грукатала. Ужо другі раз за дзень мы адчулі нарастаньне стрэсавага стану. Адзіны паратунак — трэба было выпіць гарэлкі. Мы дачакаліся Алезіса й Лёню, якія хадзілі зьбіраць пляшкі (прыёмны пункт — фласкэр — месьціўся побач, дзе, між іншым, прымалі пляшкі любога калібру, зноў жа каб ня было бітага шкла) і крыху прамачылі горла. Стала відавочна ўтульней. Мы пайшлі гуляць, пачаліся першыя знаёмствы.

### 20. Ноч

Стаміўшыся, мы завіталі ў піўны бар на службовай тэрыторыі, які працаваў кругласутачна. Піва было проста цудоўнае, і там мы праседзелі паўночы. Калі мы вярталіся ў намёты, пераважная большасьць фэстывальшчыкаў, ня вытрымаўшы такога шпаркага тэмпу, ужо спала. Нам было весела, мы адчувалі поўную адаптацыю й спакойна пакладіся спаць.

Зранку мы павінны былі перасяліцца ў гатэль. А ўвечары чакаў канцэрт.

**Працяг будзе.**

# Апошняе слова не сказалі

На мінорнай ноце завяршыў першы круг футбольнага чэмпіянату гарадзенскі «Нёман». Менавіта лік 1:4, з якім нашы землякі прайгралі ў заключным туры менскаму «Дынама», доўгіх пяць месяцаў будзе апошняй афіцыйнай гульнёй гарадзенцаў.

«Экватар» пройдзены. Што ў выніку? У нас здаўна прызвычаіліся параўноўваць усё з адпаведным пэрыядам мінулага года. Калі ласка: 13-ы радок у табліцы, столькі ж забітых мячоў, апошняе месца ў дысцыплінарнай табліцы, адсутнасьць лініі атакі. Год таму на такім самым адрэзку 2-га чэмпіянату ўсё было больш аптымістычна: 4-е месца, 15 забітых мячоў, добрая дысцыпліна і наперадзе — С. Кароза, Ю. Мазурчык і лепшы бамбардзір Беларусі усіх часоў С. Саладоўнікаў.

Няпростая задача стаіць зараз перад В. Яначкіным: менш чым за паўгады патрэбна стварыць па сутнасьці новую каманду, з добрай гульнёй, бо гарадзенцам 13-е месца зусім не пасуе. Відаць, не абыйсьціся без новых гульцоў — «легіянераў», бо як не бяры, але стварыць моцную пярэднюю лінію толькі з мясцовых хлопцаў, бадай, немагчыма. Але на гэта патрэбны грошы. Мяркую, што зьмены ў вабласным кіраўніцтве даюць спадзяваньні на фінансавую падтрымку каманьдзе.

Пакуль жа адзначым упэўнены рух да «золата» менскага «Дынама-93», упартасьць іх крыху адстаўшых калег — дынамаўцаў, добрую гульню былога заўсёднага аўтсайдэра — «Кіма». Наступае на пяты лідэрам каманды М. Рамашчанкі, які з 12 мячамі ўжо адарваўся ад астатніх бамбардзіраў і трывала стаў улюбёнцам магілёўскай «тарсіды».

А вось рэальныя прэтэндэнты на эўракубкі маладзечанцы наадварот збавілі на фінішы тэмпы гульні. Магчыма галоўныя сілы прытрымліваюцца на паўфінал Кубка Беларусі з «Фандэкам»? Ці пераадолее каманда С. Бароўскага дэфіцыт у тры мячы?

А мы? Спадзяёмся на лепшае. Большасьць гарадзенцаў усё ж верыць, што «Нёман» не сказаў у трэйцім нацыянальным чэмпіянаце апошняга слова...

І. ПРЫВАРОЦКІ.

## Працоўнае месца — рог вуліцы

Новы від заробку знайшлі некаторыя маладыя гарадзенцы: яны зарабляюць сабе сродкі існаваньня перапродажам расейскіх рублёў на разьліковыя білеты беларускага Нацыянальнага банку. Каб справа йшла добра, «камэрсанты» акупавалі цэнтральную частку горада, вакзала і торжышчы Горадні.

Г. У.

